# Крок наперад

Здаецца, яшчэ зусім нядаўна я чытаў выбраныя і падрыхтаваныя да друку вершы Іны Фраловай, з якіх склалася яе дэбютная кніжка «Чакаю першы снег», а сёння ўжо ўчытваюся ў радкі новай кнігі «Там у светлых барах». Прызнаюся, мне было прыемна пісаць уступнае слова да першай кнігі Іны Фраловай, бо дапамагаць маладзейшым — ганарова, і асабліва прыемна пісаць пра тых, у каго ёсць перспектыва на творчы рост. Вось і цяпер, калі Іна звярнулася да мяне з просьбай сказаць пра яе новыя творы некалькі слоў для кнігі, я, не вагаючыся, адразу ж даў згоду. Перад тым, як пісаць гэтую прадмову, перачытаў напісанае мною пра «Чакаю першы снег». Спыніўся на апошніх абзацах: «Іна Фралова— чалавек смелы, таму, відаць, і не пабаялася, ведаючы геніяльную «Малітву» Янкі Купалы і

ўзяўшы за эпіграф купалаўскі радок «Я буду маліцца…», напісаць сваю малітву:

Я буду маліцца штораз да паўночы:
Каб дзетак малых мінаваў лёс сірочы,
Каб крочылі людзі сваімі шляхамі,
Па белай зямлі не пайшлі жабракамі!
Я буду маліцца за роднае слова,
Каб годнай была беларуская мова,
Каб больш не дзялілі на белых, чырвоных,
На ясных паненак, на смердаў прыгонных.
Удзячная буду за простыя рэчы:
За яблыню ў квецені, котку на печы,
За снежань завейны, пяшчотнае сонца,
За кожны радочак, за кожнае слоўца…

І я веру, што Іна Фралова будзе і далей сваімі вершамі маліцца за Беларусь і кожны раз у яе будуць знаходзіцца самыя шчырыя словы…» І я не памыліўся, Іна Фралова і далей сваімі вершамі моліцца за Беларусь, ведаючы цану родным словам:

Я не помню, калі
Ап'янела ад кменных вятроў,
Чабарамі азораных ветлых сцяжынак-дарог,
Я не помню, калі
Зразумела цану гэтых слоў.
Зразумела душой, зразумела УСЁ, далібог.

Чытаючы гэтае прызнанне, верыш паэтцы і, ведаючы яе, бачыш падцвярджэнне сказанаму ў самім яе жыцці. Аднак я зусім не здзіўлюся, як, прачытаўшы вось гэтыя шчырыя радкі:

Табе ў сэрцы я месца знайшла,
Беларусь мая, побач ля Бога.
Дзе б ні йшла я, куды б ні брыла —
Да твайго мне вяртацца парога.

Нехта выгукне: «Нічога тут новага няма!» Сапраўды, так пісалі, пішуць і будуць пісаць амаль усе, хто пачынае свой творчы шлях, бо гэтае прызнанне як адна з прыступак да творчай вяршыні, і гэтую прыступку нельга абысці, каб прадоўжыць шлях па нязведаным і неапетым. Іна Фралова гэтую прыступку паспяхова праходзіць і ўжо амаль прайшла.

Не магу я, паверце, маўчаць!
Мне штоноч сняцца лес, сенажаць...
І пра вербы як мне не спяваць,
Што стаяць над ракой, нібы спяць.

А як будуць пра песні пытаць,
Што я людзям змагу адказаць?..

Адкажу ім: як сэрца стрымаць?!
Адкажу: не магу не спяваць!

У творах Іны Фраловай боль і любоў. І чаго болей — цяжка сказаць, бо сапраўдная любоў — гэта боль, а сапраўдны боль — гэта любоў. І пра што б ні пісала паэтка, яна піша шчыра, спадзяючыся, што напісанае ёю дойдзе да чытачоў і абудзіць у іх разуменне, што

З сівых паданняў, глыбіні вякоў,
Як скарб ад прашчураў, нібы святла крыніца,
Нам мова дадзена. Сярод астатніх моў
На ёй адной за Беларусь маліцца.

Сваімі вершамі Іна Фралова моліцца за Беларусь і за кожнага з нас, і голас яе з кожным новым вершам мацнее і набывае свае, адметныя рысы...

*Віктар Шніп*



*Аб табе як мне, краю,*
*не пець,*

*Жаўруком звонкім*
*як не звінець...*

* * *

У цябе, родны край, закаханая
З першых нашых далёкіх сустрэч.
Ты і боль мой, і радасць жаданая,
І высокая мараў далеч!

Мой спакой,
што пад белымі
крыламі,
Зноў трывожыш штораз па вясне.
Незабыўнымі згадкамі мілымі
Гэты сум маё сэрца кране.

Зазірнеш белапеннымі бэзамі,
Як у вокны, у чыстыя сны —
І ўзгадаю зноў лес, падпярэзаны
Ціхай беллю, мой лес верасны.

Узгадаю сцяжыначку вабную,
Што за вёскай бяжыць праз жніво,
І бусла, што часінай спагаднаю
Станавіўся са мной на крыло.

* * *

Я не помню, калі
Зразумела, што сэрцам твая.
Можа, як зацвілі танкастволыя
вішань сады,
Мо мяне абудзіў апантаны любоўю
жаўрук,
Ці зязюля, што лічыць гады,
Ці той колас, што лашчыцца рук?!
Я не помню, калі…
Стала роднаю гэта зямля,
Можа, як матылі бесклапотна
расквечвалі май?!
Ці увосень было, калі енчыў у печы
смаляк?!
Сенажаць падказала, дзе рай?..
Мне не ўспомніць той час аніяк.

Я не помню, калі
Ап’янела ад кменных вятроў,
Чабарамі азораных ветлых
сцяжынак-дарог,
Я не помню, калі,
Зразумела цану гэтых слоў.
Зразумела душой, зразумела
*УСЁ*, далібог.

Табе ў сэрцы я месца знайшла,
Беларусь мая, побач ля Бога.
Дзе б ні йшла я, куды б ні брыла —
Да твайго мне вяртацца парога.
Так, відаць, ужо вызначыў лёс,
Так нябёсамі наканавана,
Бачыць сны, дзе вясной вербалоз
З бэзам шэпчуцца замілавана,
Дзе цнатлівую квецень далоў
Неабачліва травень скідае.
Не шкадуе зязюлька гадоў —
У тых снах мне кувае, кувае…
Дзе да рання сакрэты свае
Беластволыя шэпчуць аблокам.
Іх пачуеш — і шчасця стае,
І святлее нібыта навокал!

І калі я ў паводках бяроз
Патану ў гэтых снах без падману —
Так, відаць, ужо вызначыў лёс,
Так нябёсамі накавана.

Там у светлых барах
Некранутай ад веку раскошы —
На прасторы зямной,
Для мяне не іначай як рай, —
Ёсць куточак малы,
За чужыя не лепшы, не горшы,
Але сэрцам сваім адчуваю —
Радзімы мой край.

Краю вечнай вясны,
Дзе і рэха гучыць чысцінёю!
І як скончыцца шлях —
На зямлі той знайду супакой.
Там я ў хаце не госць.
За сталом са сваёю раднёю

Наталюся я песняй, нібыта
крынічнай вадой.

Акрыляе душу,
Бо і сам гэты край белакрылы!
Сваёй годнасці моц,
Як і прашчуру, мне дараваў.
І цябе, любы край, што было,
Што было толькі сілы
За бацькоўскую шчырасць
Я ў сэрцы не раз апяваў.

* * *

Аб табе як мне, краю, не пець,
Жаўруком звонкім як не звінець,
Як у сэрцы любові не мець,
Як душой не хварэць, не гарэць?!

Не магу я, паверце, маўчаць!
Мне штоноч сняцца лес, сенажаць…
І пра вербы як мне не спяваць,
Што стаяць над ракой, нібы спяць.

А як будуць пра песні пытаць,
Што я людзям змагу адказаць?…
Адкажу ім: як сэрца стрымаць?!
Адкажу: не магу не спяваць!

Зранку котка трэцца каля ног,
Ні на крок мяне не адпускае.
Развітаемся, прысеўшы на парог,
Бо цягнік нікога не чакае.
Застануцца ў квецені сады
І лясоў сасновых доўгі шэраг.
Я вярнуся, котачка, сюды —
На свой белы ад туманаў бераг.
Я вярнуся да сваёй вясны,
Завітаю ў хату на світанні.
А пакуль аб Беларусі сны
Забяру з сабой у вандраванні.

Як бялёсым стане ў полі жыта,
Бы дзяўчат тутэйшых валасы,
Чуюць людзі кветачак нібыта,
Сініх кветак чуюць галасы.

Кажуць людзі, што з часоў далёкіх,
Як ствараўся гэты белы свет,
Бог упадабаў край сінявокі,
Апяваў, як ні адзін паэт.

Кажуць людзі, на зямельку зоры
Шчодра сыпаў, каб адзначыць рай.
Васільковымі зрабіліся прасторы,
Васільковым наракл мой край.

Шыпкі* мае!
Вы мой пачатак неба,
Вы мне, здарожанай,
жаданы супакой.
Каб новы шлях адужаць —
з ветрам трэба
Глынуць гаючы баравы настой.

Каб годна пераҗыць усе трывогі,
Мне ведаць трэба,
што яшчэ не раз,
Шыпкоўскім раннем абрасіўшы
ногі,
Пачую ў сэрцы вершаваны сказ.

* Шыпкі — вёска на Вілейшчыне.

Мне трэба быць упэўненай
і ведаць,
Як крылам Бог апошні дасць
узмах,
У хаце дзедаўскай не скончыцца
бяседа
І бусел прыляціць на родны дах.



У бухце паднябёснай жаўрукі
Вясны чаканай подых апяваюць.
«Было і будзе так ва ўсе вякі!
Было і будзе!» — свету абвяшчаюць.

Вядуць рашучы вальнадумны рэй,
З вятрамі чуйнымі складаюць
шматгалоссе,
Каб узнімалася да сонейка хутчэй
Магутнай хваляй дужае калоссе.

Зімовых дзён не спыняць скразнякі
Дух адраджэння прагны
і нястрымны —
Пакуль у родных высях жаўрукі
Пяюць вясне самазабыўна гімны.

# Мінулых вякоў вартавы

Векапомны стаіць дуб —
Трох мінулых вякоў вартавы.
Ці ад жорсткіх збялеў згуб,
Ці ён стаў ад туманаў сівы?!

Голлем, як каранямі, урос
У смугою спавіты блакіт.
Даў жа волатам Бог лёс —
За плячамі трымаць нябыт.

Колькі бачыў за век дуб,
Колькі песень пачуў ад людзей?!
А ад гэтых мацнеў дух
Ды ірвалася сэрца з грудзей.

І таму ён сталеў і дужэў,
Набіраў каранямі моц.
Нёс да Бога паэта спеў
Аб зямлі, дзе шарэла ноч.

Абяздолены, змучаны край
Абуджаў ад зімовага сну,
Апяваў няйначай як рай,
Як жаданую сэрцам вясну.

Як вясновага ветру парыў,
Святаянаўскіх росаў глыток
Для ссівелага дуба быў
Жыватворным Купалы радок.

З сівых паданняў, глыбіні вякоў,
Як скарб ад прашчураў,
нібы святла крыніца,
Нам мова дадзена.
Сярод астатніх моў
На ёй адной за Беларусь маліцца.

*Ля чыстага броду,*
*ветлай вады*
*Сядзелі любіліся два галубы.*
*Сядзелі блізенька —*
*рыло да крыла,*
*Глядзелі, як рэчанька*
*ціха плыла...*



Табе, каханне, прысвячаюць
песні,
Што будуць, ёсць ці некалі былі.
Як звон птушыны
ў небе напрадвесні,
Цябе так апяваюць на зямлі.

Каханне, ты не скончышся ніколі,
Ты — радасць, агнявая маладосць!
Ты — доля залатая і нядоля,
Ты лепшае з таго, что ў свеце ёсць.

Дзівосны край, з салодкім пахам
кветка
І вецер-буй — усё, каханне, ты!

З'яўляешся ў нядобры час нярэдка,
Але з табой бяда як паўбяды!

Табе, каханне, прысвячаюць
песні,
Што будуць, ёсць ці некалі былі.
Як звон птушыны
ў небе напрадвесні,
Цябе так апяваюць на зямлі.

* * *

Па садах аб запозненым шчасці
Так пяшчотна спяваў салавей.
Адступілі трывогі, напасці —
І адразу на сэрцы цяплей.

Не змаўкай да зары, галасісты!
Аб забытым калісьці спявай.
З белых яблыняў цвет круглалісты
Гэтай ноччу асветліць наш май.

Не шкадую таго, што сустрэчы
Нам не выпала, любы, раней.
У віхурнай юнацтва далечы
Так пяшчотна не пеў салавей.

Не змаўкай да зары, галасісты!
Аб забытым калісьці спявай.
З белых яблыняў цвет круглалісты
Гэтай ноччу асветліць наш май.



* * *

Ірдзелі лісты сарамлівай таполі
У час, калі мы абяцалі кахаць
Навекі адно аднаго. І ніколі
Пярсцёнак кляліся з рукі
не знімаць.
А часам, бывала, жыццёвую просінь
Заносіла снегам, а потым і скронь.
Усё як раней! Толькі ў гэтую восень
Тваю больш пяшчотна сціскаю
далонь.
Ірдзелі лісты сарамлівай таполі…

# Раніца расстання

Пацісне мне далонь на адыход
Каханы,
Каб ад болю затуманіцца
Слязой салёнай позірку.
На ўсход
Ён ветрам паляціць.
А мне за раніцай
На захад з цягніком ляцець,
Запозніць каб расстанне
І апець
Хвіліну шчасця з вечнага кахання.

* * *

У восень за табой пайду.
І не кажы, што там адны дажджы,
Што не вяртаюцца з-за той мяжы,
Што па шляхах крыжы,
адны крыжы,
Астылаcць сэрца — гэта не кажы.

У восень за табой пайду.
Ахрысціцца вадою дажджавой,
І лістапад над нашай галавой,
І сэрцаў вечны наш несупакой.
Вазьмі мяне з сабой!
Вазьмі з сабой…

Апошні ліст. І белыя завеі
Сляды сустрэч мінулых замятуць.
У снезе першым першыя надзеі
Замерзнуць, прахалоду прадракуць.
Апошні ліст — мне, як усё, да часу
Тут дадзены, не болей і не менш;
Адвечнае пытанне без адказу.
Апошні ліст — бы набалелы верш.

Дрэвы знадворку шумяць і шумяць,
Стрэхі абсыпаны лісцем.
Прыкра і горка адной святкаваць
Сэрца спакой. Дзе калісці
Бачылі разам раз’ятраны рай,
Чулі чароўныя спевы
Сіняе птушкі.
Дзе быў небакрай
Шляхам Адама да Евы.
Зараз не вабіць ні рай той, ні сад,
Ні таго квету завеі.
Ты ратавальнік, спакой мой, ці кат,
Ці толькі сэрца надзеі?..

* * *

Як па вокнах вясковых узоры
Размалюе мароз малады,
Як узыдуць калядныя зоры,
Мы спаткаемся, дружа, тады.

Мы спаткаемся, дружа, з табою
Адагрэцца пяшчотаю слоў!
Да твайго я пляча галавою
Прыхінуся шчаслівa ізноў.

Будзе радасцю звонкай спавіта
Гэта стрэча. І зорка, як знак
Блаславення нябёсаў нібыта,
На імгненне асветліць бальшак.

Як па вокнах вясковых узоры
Размалюе мароз малады,
Як узыдуць калядныя зоры,
Мы спаткаемся, дружа, тады.



Сыходзіць восень. Лістабой.
Лісцём лядашчым засцілае
Мінулае, дзе мы з табой,
Дзе наш усход яшчэ палае.

Знікаюць восені сляды,
Счарнелы ліст з’ядае шэрань.
Жыццю адмераны гады,
Не для кахання гэта мера.

Сыходзіць восень. Супакой,
У сведках Бог, шукаць так рана!
Хачу я з лёгкаю душой
Прыняць, што нам наканавана.

❀❀❀

Стала цёмна ў вокнах,
І кідаюць на плёс
Цень размыты намоклы
Зоркі з чорных нябёс.

Забалочаны бераг
Абдымае рака,
Вербаў схіленых шэраг
Спавіла асака.

Час панёс хваляванні —
І бяда не бяда.
Адшумела каханне,
Ды й яго не шкада.

Шкода ціхія цені,
Што ўпрыгожылі плёс,
Яны ў вечар асенні
Нагадалі мой лёс.

Мой майскі сад, вясновы сад,
Сягоння адзічэлы.
Стаіш маркоцішся ля хат,
Расквечаны і белы.
Да рук не лашчышся галлём,
Як маладыя калісьці —
Мяне сустрэўшы гожым днём,
Шумеў зялёным лісцем.
Цяпер чаго, мой бедны сад,
Дрыжыш, стары, збуцвелы?
Каго чакаеш ты назад,
Мой сад асірацелы?

* * *

На наш парог спяшаецца вясна!
У талым снезе мыюцца аблокі!
П’яняць да тлуму, нібы ад віна,
Празрыстыя бярозавыя сокі!

Па вузкіх вулачках,
                груваcткіх бальшаках
У залатой ад сонца акварэлі
Ляцяць вясны апетыя ў вяках
Нястомныя крылатыя арэлі.

# Лета

Сонца зранку слепіць вочы,
Дзень вітаючы ў смузе.
«Жыць так хораша!» — клякоча
Госць цыбаты на страсе.

Што настрой — няма сакрэту!
Гэта проста выпаў час
Завітаць мілому лету
На вакацыі да нас.

На зялёным росным лузе
Кветкі дораць пахкі мёд.
Распачаў у цесным крузе
Рой пчаліны карагод.

Тут няма, сябры, сакрэту,
Што такі ва ўсіх настрой.
Час прыйшоў міламу лету
Станавіцца на пастой.

І забыўшыся на скруху,
Асмялела драбяза:
Танчаць польку «Весялуху»
Матылёк і страказа.

Што настрой — няма сакрэту!
Гэта проста выпаў час
Завітаць міламу лету
На вакацыі да нас.

Дзедаў кот і той ў гуморы,
Вочы жмурыць у двары:
Мроіцца шпацыр бадзёры
З шэрай мышшу на гары.

Тут няма, сябры, сакрэту,
Што такі ва ўсіх настрой.
Час прыйшоў міламу лету
Станавіцца на пастой.

* * *

Я скажу табе, восень, бывай!
Мне сягоння збірацца ў дарогу.
І са шчырай малітваю Богу
На дарожку прысядзем
давай!

Ляжа шырака, восень, мой крок —
Па вярсце — праз мароз і завеі,
Бо з мяне халады-скарабеі
Жыватворны высмоктваюць сок.

Не зраслося, за ўсё выбачай!
З пералётнымі я адлятаю.
Загараецца ранак. Світае.
Ты мяне з новым днём не чакай!

Я скажу табе, восень, бывай!
Будзь зычлівай,
мне сёння ў вандроўку.
Пакладзі ліст кляновы ў паштоўку…
Я пайду.
Зачакаецца май!



* * *

Асенні вецер дыхае мне ў твар,
Драпежным зверам абрывае лісце,
Дажджом цымбаліць
з пераспелых хмар,
На волю рвецца
й не знаходзіць выйсце.

Скажы мне:
«Хто ты — д’ябла ці дудар,
Ці проста п’яны халасты вятрыска,
Што ад сяла і да сяла абшар,
Як шчанюка, зацалаваў у мыску?»

Ці, можа, ты нябёсаў уладар,
Якому род мой у часы паганства
Пашану аддаваў.

«Званар, вялікіх змен званар…
Спрадвечнага асенняга
бунтарства».

# Май

Прачнуўся май.
Бэз ап’яняе пахам.
Прачнуўся май
у росквіце вясны.
Над белаю зямлёю
белым птахам
Ляціць у свет,
мае трывожыць сны.

Ляціць, каб зноў
каханне заспявала,
Па тых садах,
дзе, першацвету ўслед,
Я некалі,
як вэлюм, прымярала

Буйны і пахкі
яблыневы цвет.

Каб зноў танула
раніца ў пяшчоце,
Дурманіла,
кружыла галаву.
Каб салаўінаю
тугой у адзіноце
Кранала сэрца
ў сне і наяву.

Чэрвень. Луг. У пояс травы.
Хлопцы выйшлі талакой.
Свіст касы звонкагалосай
не сціхае за ракой.
Ранак. Стома. Ціш спявае.
Росы ссыпалі траву.
Касавіца.
Узнімае неба сонца-булаву.

Мой дзед сівы, старэнькі, невучоны,
Штодзень праводзіў сонца за раку.
Ён углядаўся ў захад залачоны,
Мяне малую ўзяўшы за руку.

Аб чым ён марыў —
сёння не спытаеш,
Маўчыць узгорак сціплы
пад крыжом.
І зноў і зноў той час успамінаеш,
Што вастракрылым праімчаў
стрыжом.

Няспешна захад дагараў —
За вёсачкай вісеў падковай.
Дадому статак шкандыбаў,
Рыкалі сытыя каровы.

Звычайны вечар. Ля платоў
Збіраліся, нібы на фэст,
жанчыны.
Скупое кінуўшы «здароў»,
Як семкі лускалі навіны.

Ды толькі гразь і каламуць
Кароўкі ў бродзе капытамі
Уздымуць, шчодра скалануць,
Як бабы босымі нагамі

Па жвіры беглі да ракі.
Ласкавага не шкадавалі слова,
Калі скарынкаю з рукі
Хрумсцела мажная карова.

Каб потым — клямку на прабой
І на услончыку рагатым
Царкоўным звонам сырадой
Збіраць бляшанкамі дахаты.

Мне на памяць восень пазалоціць
Жоўтым лісцем цёплую далонь,
Яблыкамі ў садзе заахвоціць,
Упрыгожыць павутою скронь.

Разліецца дзе-нідзе мядовай
Зманлівай паводкай па зямлі,
Дзе нядаўна дыванам шаўковым
Кветкі чабаровыя цвілі.

Але ўсё ж нуджуся я аб леце
Пад асенні зарапад буйны.
Мне ліповы яснакрылы квецень
Прылятае праз дажджы у сны.

Зразумей маю самоту, восень,
І няўважлівасць маю даруй.
Я люблю саромлівую просінь,
Глыбіню тваіх вачэй. Не злуй!

Але недзе за бядовым летам
Радасць шчабятлівая ўцякла,
Адарыла жоўценькім букетам,
Як са мной апошні раз была.

Трошачку я, восень, папляткару,
З бабіным — ды летам — пастаю,
Каб прагнаць падобную на хмару
Радасць, мне чужую — не маю.

Як свайго нямашака — не трэба!
Пазычаць я, восень, не пайду.
Лепей буду кожны дзень да хлеба
Дадаваць гаркую лебяду.

Ліст кляновы! Не кружы, нябога!
Як ад хмеля нешта павяло.
Паплыла наперадзе дарога,
А па ёй гавыльнік як назло.
А па ёй някошаныя травы,
Пад нагамі, нібы зарапад,
Навашчоны, з яблыкаў рухавых
Коціцца антонаўскі апад.
Ліст кляновы! Не прашу нічога,
Толькі дай улегцы адысці!
Не кружыся моўчкі ля парога.
Адпусціся і мяне пусці.

# Жартам

Ці чуеш, ё-маё?..

*Віктар Шніп*

Пустэча нешта сёння разгулялася
З душой маёй да самае зары.
Крывёю бессаромна наталялася,
Як ненажэрныя звячорку камары.
Памрэш, дурніца,
як жа не адчэпішся!
Кідай мяне, на чорны лес бяжы!
Бельматая, чаго на крыж чарэпішся?
Я праваслаўная! А ты з якіх, скажы?
Дарма грызеш! Я моцная, вясковая,
Тутэйшая! Усё вакол маё!
А на табе й кашуля пазыковая.
Ідзі дамоў. Ці чуеш, ё маё?…

Мне б наталіць сябе зімовай
цішынёй,
Са снегападам пералётным
заблудзіцца,
Аставіць горад з яго вечнай
мітуснёй
Ці ў рэшце рэшт пад яго брамамі
напіцца.
Заплюшчыць вочы, непрытомна
анямець.
Не чуць, не бачыць анічога,
ні халеры…
Туды схавацца,
дзе і час цячэ ледзь-ледзь,
Каб tet-a-tet сустрэцца з вершам
на паперы.

*«Мінскай зямлі»*
*Алеся Клышкі*

Сняцца маці рабіны, рабіны
У бялютай смузе туманоў.
Па пяску сняцца ёй каляіны
Ад калёс, што не едуць дамоў.

Дзе-нідзе ў сне трапляюцца хаты,
Ацалелыя, побач дарог.
Вось з такой выпраўляла ў салдаты
Маладога сынка за парог.

Ды наперад што ведала маці?
Толькі чулае сэрца не раз
Ёй шаптала:
«Ля чорнае гаці,
Там шуміць пад аблокамі вяз…»

А далей заціскала трывога —
Прадчуванне вялікай бяды.
Сніцца маці дарога, дарога
І ўсмешлівы твар малады.



❀❀❀

З сябрамі летні вечар падзялю,
Таполевыя снежныя завеі.
Пад песню цвыркуна,
                што так люблю,
Я падзялю гуд гарадской алеі.

Халодных зорак падзялю святло.
Сябрам маім да раніцы хай цьмее
Паўмесяца пасрэбранае шкло,
Для вас, хто сум паэткі разумее.

* * *

Асыпаецца цвет па вішнёвых садах,
З матыльком паляцеў ён учора.
Быццам стаў на крыло
напалоханы птах —
Устрывожаны стрэламі жораў.

І адразу шкада неяк майскіх завей,
Не стае ім жыццёвае сілы.
Праімчыць іх жыццё
за імгненне хутчэй,
За адзіны палёт срэбракрылы.

Заціх у спякотных абдымках,
Замоўк гаваркі летні дзень.
І цень, як сухая скарынка,
Хрумсціць пад нагой. А сухмень,
Убачыўшы сцежку лясную,
Якая самотнай была,
За ёй напралом, усляпую,
Як толькі не зломіць крыла!
Паніклае хіліцца долу
Мядункі танклявай сцябло.
Ня выжыць ёй на сухадолу,
І дождж не ідзе, як назло.
Замерла ўсё ў цяжкай дрымоце,
Пануе палудзенны сон.
І толькі на срэбнае ноце
Ліповы гудзе перазвон.

Загарацца бруснічнай спякотай
лясы
На задворках згарэлага лета,
І далёка-далёка чуваць галасы
Зграй птушыных з нябеснага свету.

Я люблю цябе, рыжая восень, —
Адшумелай лістоты апад!
Ўсё вачэй тваіх мроіцца просінь,
Залатых валасоў вадаспад.
Адпіваю глыток з асалодай
Ад туманных прастораў нагбом.
За цябе, мая восень-нагода!
За цябе, маё свята з дажджом!
Кідаць словы на вецер, дарэмна —
Не па мне. Пасядзім у цішы.
Пад асеннім дажджом так прыемна
Памаўчаць, памаўчаць ад душы.
Мне даруй асцярожнасць у словах,
Бы употай хваліла цябе.
І не чула каштоўны той шолах
Залатога лісця пры хадзьбе.

Так хачу на цябе спадзявацца,
Смакаваць непагодны настой.
Каб, чакаючы, ўсё ж дачакацца
Твайго сну даравальны спакой.

Зранку Восень-свякроўка
Нудзіць сэрца дажджом.
Дзеры ўсе на засоўку
Ды забіла крыжом.

Не пускае, шальмуе,
Вільгаць дзён удыхнуць.
Бессаромна спрабуе
Схітраваць, падмануць.

То дажджамі чаруе —
Забірае спакой.
То да барвы шаруе
Лісце сквапнай рукой.

І за што ж у няласку
Я патрапіла зноў?
У шчарбатую пастку
Гоніць Восень-свякроў.

Ты няўжо закаханай,
Маладой не была?
І ў пачуццях рахмана
Не гарэла датла.

Пашкадуй мяне, Восень,
Затрымай Лістапад.
Апяю тваю просінь,
Ў спелых яблыках сад.

Апяю ў прыгажосці
Закалыханы сум.
Надаеў мне да млосці
Лістападаўкі тлум.

Са старым і нялюбым
Мне шчэ век векаваць.
Дай пад звязістым дубам
Пра любоў паспяваць.

Дай да донца з каханым
Куфаль шчасця дапіць.
З любым, сэрцам абраным
Хоць хвілінку пабыць…

* * *

Праляцелі над сцішаным борам
З маіх сноў журавы, журавы —
Веліч рухаў, нябёсам пакора
І нязведаны сум векавы.

Схамянулася сэрца балюча,
Набрыняла «курлы» далячынь.
Першых восеньскіх спеваў сугуччы
На зямлю паляцелі з вышынь.

* * *

Блукае вецер веснавы
У валасах тваіх пшанічных,
Пераплятае пах травы
І першы подых навальнічны.

# Сталасць

Вось стала ратаваннем адзінота —
Каўчэгам Ноевым. Я ціхенька крану
Крысо тваё, спадарыня самота,
Дазволь, свой неспакой ім захіну.
Што голы неспакой,
які ж тут сорам?!
Адзначаны ўжо слупам верставым
Юнацтва час пад прозвішчам Учора,
Дзе сорам быў, бясспрэчна,
вартавым.
Тады навошта клопаты, сяброўка,
З усмешкай восені, з бяздоннасцю
ўваччу?!
Мне ад кастрышчаў лісця
ў роце горка.

Спагады?

Не…

Я цішыні хачу…

* * *

Шукаючы напрамкі і шляхі,
Дзе памнажаючы вяртаюць талент
Богу,
Я зразумела: злосці катухі
Не для мяне. Ды з бойкай перамогу
Не мне трымаць скрываўленым
ілбом,
Тут, на Зямлі, дзе й так крыві
без меры.
Чужыя крыўды выпіваць нагбом
Не мне. Як і не мне пражыць
без веры.
Не мне наканаваны гэты лёс —
З трыбун крычаць,
як заняпала мова.

Маё, я ведаю, — да дрыжыкаў,
                                        да слёз
Шукаць гармонію між вобразам
                                        і словам.



* * *

Асенні вечар. Манастырскі двор.
І непагадзь бязмесячна-сляпая
Далонямі абветраны прастор
Шалёна лапае,
як быццам бы жывая…

На тым дзядзінцы толькі я і ты
Укленчана стаялі ля парога.
Маліўся ты, а я нясла лісты
У вершах-споведзях
да Найсвятога Бога.

Ляцела мокрая лістота ў твар,
Дажджы змывалі літары з паперы.
«Мір вам!» — пяяў сівы святар,
Калі у Храм мы адчынілі дзверы.

Касых дажджоў заенчылі басы.
Вятры як воі білі сцены Храма.
І стаў спакой, што дорацць абразы,
Нібыта ў рай расчыненая брама.

Парывы-думкі
ў паднябессе адпушчу
Адным узмахам рук.
Адным імгненнем
Ім вольную я дам,
Пазбаўлю мук.
Не быць крылатым вязнямі.
Скляпенне
Умоўнасцяў без страху разбяру.
Лёс не даруе сытага спакою.
Па мне ўжо лепей з крыжам
пад гару,
Чым умывацца крыўднаю слязою.
Без шкадаваняў думкі адпушчу…

Адным узмахам рук
Дарую крылы.
Не, не трымценне, а шалёны грук
У нетрах сэрца абуджае сілы.

# Змест

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Фралова** Іна Мікалаеўна

# *Там у светлых барах*

*Вершы*

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Віктар Шніп*
Камп'ютарная вёрстка *Ларысы Ваўчок*
Карэктар *Валянціна Андрэева*

Падпісана да друку 10.10.2012. Фармат 60x84 $^{1}/_{32}$.
Папера афсетная. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 2,44. Ул.-выд. арк. 1,02.
Наклад 500 ас. Зак. 741.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.